УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)-5
Г15

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 23.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**ISBN 978-985-7007-51-6**



## Кніга стыглага часу

У беларускай паэзіі вялікая будучыня.

Мы не верым у заўтрашні дзень, не верым людзям — нават тым, каго паважаем і любім. Мы ніколі не слухаем, а калі слухаем — не чуем.

Паэзія — адзінае выйсце.

Выйсце ўнутр сябе.

Па сутнасці, адмаўляючыся ісці наперад, мы ўвесь час вымушаны вяртацца да пачатку, каб зразумець, адчуць, што хаця б там — у бяздоннай глыбіні — ёсць выток.

Нараджэнне і смерць.

Вершы пішуцца не тады, калі «знойдзены дакладныя адрасы», а — у часе адолення тых кіламетраў пругкай празрыстасці, якія аддзяляюць паверхню ад цёмнага дна.

І вось тут надыходзіць чарга спаборніцтва.

Калі паэзія Галубовіча з'явілася — заўважылі адразу, і таму ёсць прычыны.

Чысты голас. Вызнанне непасрэднай гаворкі, адмаўленне мішуры.

Не кшталтаванне паэтычнай мовы, а трапнасць выказвання, тоеснасць яго — рэчаіснасці.

Чыстае «эга», антыкалектывізм. Адсутнасць экзальтацыі селяніна наконт сялянскага жыцця.

Прага іншага.

«Зіма — падман, ды і вясна — падман. Вось-вось павінна нешта праясніцца», — напісаў Міхась Стральцоў.

Ні д'ябла не праяснілася.

Пастаяннае знаходжанне ў сітуацыі паразы; пастаянная неадпаведнасць таго, што ёсць, — таму,

кім ты ёсць. Праз гэта — абагаўленне мінулага, ушанаванне бронзавых статуй, адсутнасць веры ў будучае, паталагічная бесперспектыўнасць.

Паэт змаўкае толькі праз адчай.

Паэт пачынае гаварыць толькі праз адчай.

Чалавек прамаўляе словы, губляе іх, забывае. Але, каб слова загучала ў сваім першародстве, трэба, бадай, ставіцца да яго як да жывога, як да біялагічна народжанага. Тут пачынаецца творчасць: згушчаная субстанцыя індывідуальнага маўлення, няспынная, нібы час. Творчасць асуджаная знаходзіцца ўнутры часу і адштурхоўвацца ад яго, шукаць першааснову, субстрат наўзамен сляпога і бяздумнага руху ў Нішто.

На сваім шляху творчасць ставіць межавыя слупы — кнігі.

Кніга абмяжоўвае пісьменніка: усё напісанае прасейваецца і (часам — свядома, часам — прымусова) укладаецца ў выданне. Чалавечае мысленне, зразумела, шырэйшае за кнігу. Але здараецца, што ўласна кніга пачынае дыктаваць свае законы і часцяком перастае падпарадкоўвацца творцу, які ўжо не здатны нешта паправіць, бо дарога пракладзеная і па ёй ідуць людзі.

Вось новая кніга Леаніда Галубовіча.

Прачытайце яе.

*Ціхан Чарнякевіч*



* * *

Усе мае лепшыя вершы
са мною павінны памерці,
калі ж я сканаю першы,
то вы ім паверце
і без маёй прысутнасці,
проста на слова,
бо, калі браць па сутнасці,
я — іх палова.
Не тая, што водзіць пяром
і строфы складае,
а тая, што ў неба пралом
пагляды кідае
і ловіць маланкі клінок
натомленым духам,
зямны завяршыўшы віток
немачнай скрухай.
Калі ж пакарае Гасподзь —
і жыць буду доўга,
чытач, не саромся, прыходзь
за паэтычным доўгам.
Ці хоць бы зірнуць на таго,
хто зоркі вымольваў з неба
не толькі для аднаго
духоўнага хлеба,
хто ў цень ступаў Сатаны,
душы сваёй не прадаўшы,
таго, што Бог затаіў,
так і не разгадаўшы...

*29 красавіка 2011 г.*

# НАДА МНОЮ

* * *

Нічога я не запісаў,
што на душу паклаў Гасподзь мне,
і дух мой цела так скрамсаў,
што прах яго зямля ці возьме...

Нішто не месцілася тут —
ні ў галаве, ні на паперы —
з таго, што вымкнула з пакут
любові, гонару і веры...

Не мог абняць сусвету слоў
і іх пазбыцца прыцягнення,
і раз за разам прагнуў зноў
я толькі самасуцяшэння...

Хацеў не ісціну знайсці,
а завязь сутнасці жывога,
з якой магчыма ў свет прыйсці
і дасягнуць вянца зямнога.

Ды зразумеў, што чалавек
вышэй сябе паўстаць не можа,
бы глянуць з-пад чужых павек
на ўсё, што нішчыў тут і множыў...



Не здольны выявіць пакуль
мяжу, дзе дух стае над плоццю, —
таму й сыходзіць ён адсюль
як і належыць ягамосцю...

І гэты самы чалавек,
што сам спазнаць сябе не можа,
спазнаць жадае цэлы свет,
які яму стварыў Ты, Божа?!

*2 студзеня 2009 г.*

* * *

...так я сыходзіў ад вершаў,
быццам ад першай дзяўчыны, —
самай прыгожай і лепшай —
без абвяшчэння прычыны.

Проста жыцця па-за сэнсам
прагла душа, як збавення,
пішучы зболеным сэрцам
словы крывёю па венах.

*Быць не галоснай, а чуйнай,*
*жыць не відочна, а тайна,*
*не аднастайнай, а буйнай,*
*дзіўнай, нікім не чытанай —*
гэткай паэзіі млелася,
але, на жаль, не маглося:
ўсё, што пілося, — адпелася,
ўсё, што пісаў, — адбылося.

Можа, апроч толькі смерці,
той, што руйнуе ўсе словы,
але не можа ўсё ж сцерці
боскай паднебнае мовы,
той, ад якое паэты,
як ад атруты, ўміралі
ў поцемках гэтага свету,
а для жывых пакідалі

веліч высокага духу,
мройнага шчасця хімеру,



смерцю касуючы скруху,
вершам мацуючы веру.

*18 лістапада 2010 г.*

* * *

Ах, и не в эту землю я сложил
Всё, чем я жил и чем я дорожил!
*Ф. Цютчаў*

Усё, што з гэтай звязана зямлёй,
у гэтай жа зямлі павінна *збыцца*,
а кроўна знітаванае са мной
затоіцца, каб некаму адкрыцца...

Магчыма, хто, растраціўшы майно,
аточаны бяспраўем і бязвер'ем,
наткнецца на прагал жыцця майго
і ўсё на тым здзічэўі пераверне,

параніўшы і розум і душу,
ён сэрцам прачытае пераемна
усё, што я цяпер яму пішу,
пра тое, што і ён бы неадменна

пісаў бы мне, трывожачы мой прах...
І цёплая зямля, што спацьме ў грудзе,
як нашае жыццё, ў яго руках
перасыпацьмецца
і ў груд вяртаць нас будзе...

*4 ліпеня 2010 г.*



## Беспрытульныя словы

Як тое словам напісаць,
што выйшла з-пад улады слова,
нібыта нешта ў сне сказаць
ці з будучага ці з былога,

якое здольны зразумець,
а паўтарыць наноў не можаш,
бо ўсё-ткі ты не можаш мець
ягоных з'яў, што словы множаць...

Ты толькі можаш мармытаць,
узняўшы вочы на нябёсы,
нібы намогшыся спытаць
у Бога прапісныя лёсы

тых самых слоў, што з-пад Яго
апекі вымкнулі і ўлады,
наўпрост жадаючы таго,
каб ты ўладаў і даў ім рады...

*10 верасня 2010 г., Мінск*

* * *

О, не, не галавой мастацтва творым,
хоць, ведама, і не без галавы, —
і постмадэрн, вунь, цешыцца ў фаворы,
і рваны рэп адстойвае правы...

Вядома, можна змысліць адмыслова
будову свету і ягоны лад,
але каменным стане тое слова,
што спараджае злобу і разлад...

П’янтос бязбожны і пустая шлюха
калісьці дзецьмі мілымі былі,
цяпер, бы ў мора знесеная шлюпка,
яны пацалавалі б край зямлі...

Гаротныя, шаленцы без прытула,
бяздушна згвалтаваныя не раз, —
вас творца ад пагібелі ратуе
і ўпісвае ў *жывы* іканастас...

Калі б жыццё не змолваў лёс, бы ў жорнах,
і не ўзнаўляў, здзіраючы струпы,
то ўжо даўно мы ўсе ў *квадратах чорных*
сядзелі б, як Пікаса *галубы*...

І ўжо ці адшукалі б раўнавагу,
з якой жыццё бярэ зямны адлік,
альбо, нарэшце, ці звярнулі ўвагу,
ці ўчулі б гэты дзікі Мункаў *крык*?!

*9 верасня 2010 г., Мінск*



* * *

Ну, вось і Купалаў я век пераЖЫЎ.
(З шуфлядаў расце мемуарная проза.)
І як ні рыфмуй, як страфу ні вяршы, —
выходзіць банальна й занадта цвяроза.

І вопыт, і мудрасць вартуюць канон,
рэальнасць ад крозаў адцяўшы цэзурай.
Над воляй метафар — маральны закон,
і ўзлёты прыземлены самацэнзурай.

І ўжо ні *жалеек*, ні *песень жальбы*,
ні нават *вянка* — на аджытыя вершы...
І ты не адзіны, а з мноства — любы,
дачасна памерлы з паэтаў тутэйшых.

*10 красавіка 2011 г.*

* * *

*Янку Лайкову*
*і Ярыне Дашынай*

Калі паэт класічна запівае
альбо паэтка ў трыццаць зацяжарыць,
то кожны з іх міжволі забывае,
што спальвае на ўсчыненым пажары
не талент свой,
                    а волю ім валодаць,
каб ён,
          сыходзячы з вяршыняў духу,
ураўнаважваў літасцю і згодай
узвышанасць душы і цела скруху...

...і ўсё ж паэт з Арфеем запівае,
паэтка рыфмай Феба зноў цяжарыць —
і Сатана іх талент распінае,
хоць сіл не мае Божым заўладарыць.

*16 снежня 2008 г.*



## Версіфікатарам

У маладосці прагнуць славы
Шэкспіра, Пушкіна, Купалы,
а ў сталасці ладкуюць слова
пад Ейтса, Бродскага, Стральцова,
не тлумячы душу дачасным —
пра скон пад прозвішчам уласным.

*12 студзеня 2010 г.*

## Плагіят

Усё, што ні пішам, ёсць плагіятам
з ужо напісанага
ці з таго, што яшчэ будзе...
Нават Гамер падрабляў спевы сірэн,
не кажучы ўжо пра Купалу,
які слова ў слова перадаў жальбу беларуса...
Вось і я сёння ў сваім жніўным узросце
плыву па вуліцы за ветразем белай сукенкі
з надзеяй раздзьмуць да полымя
сваю самую яркую іскру жадання, —
а пасля, гляджу,
на пальцы яе гарыць залаты пярсцёнак, —
у яе, аказваецца, гэта ўжо ўсё было...

*25 студзеня 2011 г.*



* * *

памятаю, ваенны хірург
з другой клінічнай бальніцы,
што насупраць Траецкага,
выдаляючы жоўцевы пухір,
у чаканні наступлення наркозу
буднічна чаканіў мне,
распасцёртаму на халодным стальным стале:
*у чалавека*
*галоўнае — нервы,*
*беражыце іх і мацуйце,*
*спакой —*
*аснова жыцця,*
*успрымайце ўсё як належнае,*
*умерана харчуйцеся,*
*штовечар перад сном*
*выходзьце на шпацыр —*
*і доўгі век вам гарантаваны,*
*пабачыце,*
*я ведаю,*
*нават без жоўцевага пухіра*
*спакойныя*
*сягалі за дзевяноста...*

і вядомы крытык,
што рана сышоў,
калісьці за віннай чаркай
таксама, памятаю,
запальна-горычна выдыхаў мне ў самае вуха:
*для паэта —*
*нервы — гэта галоўнае,*

*усе праявы жыцця*
*павінны вас глыбока ўзрушваць,*
*спакой згубны для творцы,*
*кожны верш выпальвае нервы,*
*і калі ўсё ж аднойчы*
*яны палыхнуць з нястрыманай сілай,*
*вывяргаючы паэзію,*
*як вулкан лаву,*
*магчыма,*
*і ў вас,*
*малады чалавек,*
*з'явіцца шанец*
*стаць несмяротным...*

*8 жніўня 2011 г.*



# ПРА МЯНЕ

* * *

Перасыпаю плот.
Прыпамінаю Фроста.
Гляджу: аслеплы крот
з нары, нібы з фарпоста,

паўзе на вастрыё
натомленай рыдлёўкі:
*ўсё цёмнае маё,*
*не пераймай радоўкі!*

Мне смешна. Не палюй
пры яркіх промнях пожні...
Я *белы* свет люблю,
а ***цёмны*** — схоў апошні.

Калі ж быцця гара
дацягнецца да Бога,
то і цябе нара
вядзе да нас, сляпога...

І тут з табой мы ўдвух
жыцця змагаем скруху,
каб перавесці дух
і жыць набрацца духу...

А *той* і *гэты* свет
не адгародзіш строга,
як Новы Запавет —
старонкай — ад Старога.

Таму капай зямлю,
а я яе засею,
пакуль свой свет люблю,
і твой, бач, разумею...

*7 кастрычніка 2010 г., в. Вароніна*



## Божы страх

Мне страшна, я не разумею
ні Божых дзей, ані дарог, —
бо як пад сонцам ні мадзею,
не дапамог ні ў чым мне Бог.

Хоць скаргі шлю Яму здалёку
й штодзённа дзячу за жыццё,
а не магу даймецца клёку,
каб зразумець Яго *быццё*...

Бывае, й вера пакідае
і ў Божы свет, і ў свет людскі, —
ды ў падсвядомасці ўзнікае
свяшчэнны жэст Яго рукі...

Бо хто ж яшчэ з нябёс вячыстых
забраць гатовы ў нас без слоў
той *дух*, што даў калісьці чыстым,
каб нас *зямлёй* пакінуць зноў?..

І чым я больш прад Богам млею
і ледзь жыву, быява ў сне,
тым больш і больш я разумею,
што — разумее Бог мяне...

*21 чэрвеня 2008 г.*

* * *

Госпадзе, няўжо і я ўздымуся
да Тваёй паднебнай вышыні
і сваёй грахоўнасцю кранyся
Боскай першароднай чысціні?

І няўжо адпусціць мне Ўсявышні
ўсе грахі, што ёсць і быць маглі,
і не апынуся Там я лішнім,
як не раз бывала на Зямлі?

І наўздзіў адкрыецца мне *веда*
ісцін тых, што не адкрыў я сам,
і мая сужэнка, пані Вера,
як чужая, стрэнецца мне Там,

дзе ні слёз, ні радасці, ні страсці —
вечны час, як Сцікс, цячэ ў нябыт?..
Страшны Суд, ці так ужо ён страшны,
калі роўна — *быць альбо не быць*...

*30 трайня 2008 г.*



* * *

Кладуся спаць пасля малітвы,
стуліўшы стомленыя векі...
Пражыты дзень, бывай, мы — квіты,
ты ў памяці маёй навекі.

І ўсё, што дзеялася мною
і мною мроілася ўтомна, —
закрыта цёмнаю сцяною
і сцішылася беспрытомна.

Адзін у бездані Сусвету,
ляжу пад неба зорнай коўдрай,
і ў сне пераплываю Лету,
адчуўшы млосць часцінкай кожнай.

Душа ад цела адкаснуцца
яшчэ не можа, хоць і прагне,
і ўсё цяжэй ад сну прачнуцца,
канаючы ўсю ноч да рання...

І так да збуднага нязнанку
мяне трымацьме смерці сіла,
пакуль на выстылым світанку
не ўскрыецца начы магіла...

*12 жніўня 2009 г., в. Вароніна*

* * *

Усе хацелі б ведаць Бога
у твар, да ногця, да драбніцы
(амаль што як сябе самога),
падгледжанага на бажніцы.

Ды ўсё ў жыцці зямным іначай,
і ў вечным — не бліжэй да ісцін:
Бог Сам людзей хацеў бы бачыць
такімі, як стварыў калісьці.

*7 сакавіка 2011 г.*



## Несмяротнасць

Мама,
каб нарадзіць мяне ў гэты свет,
Ты ахвяравала часцінкай сябе...
І чым даўжэй я жыў,
тым больш Ты сябе аддавала...
Пасля й сам я пачаў забіраць у Цябе
цела моц, яго сілу, і зрок, і слых,
жаданні, радасці й задавальненні...
І вось грэюся ля прысаку сэрца Твайго
і лаўлю апошняе дыханне Тваё...
Калі ж урэшце забяру ў Цябе ўсё —
вобраз Твой прыму канчаткова...

*Чэрвень–ліпень 2008 г.*

## Поўдзень у прылеску Зялёнага Лугу

Дзіцё цешыцца радасцю,
працягваючы цукерку
вавёрцы,
што раскручвае абгортку
ў яго на вачах...
Маці смяецца,
прыкрыўшы далонню рот,
баючыся спалохаць
шчасце свайго дзіцяці...
Якраз поўдзень.
Усе драпежнікі яшчэ спяць
у сваіх цёмных норах...

*13 чэрвеня 2010 г.*



* * *

На вузкай сцежцы бажавільны бомж
мне лазерам вачэй душу ўскрывае...
Бог толькі ведае, каму баліць з нас больш
і хто больш годна боль жыцця трывае...

Дзяўчо ліцэйскае наперарэз бяжыць,
нясе ноўтбук са светам віртуальным
і нам траім там прапануе жыць,
нібыта ў космасе выратавальным...

*3 снежня 2008 г.*

* * *

*«Ты абсалютна абмежаваны чалавек, —*
кажа мне жонка, —
*і тут табе нецікава, і туды ты ехаць не хочаш,*
*і нічога, апроч сябе, ты не бачыш...»*
Дык і праўда ж,
самае невядомае для мяне — гэта я сам.

Бо як ні адыходзіў ад сябе далёка,
а далей свайго ўяўлення быць не даводзілася...

Ну, і нарэшце, вы павінны зразумець
маю нехаць да вандраванняў:
што, хіба трава ў Нямеччыне блакітнага колеру,
а не такая бура-чырвоная, як у нас пад Хатынню,
і няўжо японцы і сёння
так бясстрашна робяць сабе харакіры,
не раўнуючы як успорвалі жывот
майму вяскоўцу ў Маньчжурыі?..

І Карфаген, і егіпецкія піраміды, і храмы мая,
і Каложская царва пабудаваны з адной зямлі...
І ўвогуле хіба прыгажосць і каштоўнасць
адрозныя ў розных месцах свету?..

Топчамся па сваім,
долу вочы свае апусціўшы,
а на Неба падняць іх —
саромеемся граху свайго...
Адзін згарыць у палёце,
другі захлынецца ў гразі,
гэты памрэ жывым,



а той працягвае жыць пасля смерці...
А ўвогуле, скажу так:
можна думаць пра вечнасць,
досведу рой абхапіўшы рукамі,
а можна, як аквалангіст,
паглыбляцца ў сябе,
пакуль хопіць дыхання...
штодня не дастаючы
д
н
а
.
.
.

*17 ліпеня 2008 г., Мінск*

* * *

Сок падкорны — драўляная кроў.
Пілавінне — драўляны прах.
Колькі ж спалена намі дроў,
каб зямны агонь не ачах?!
Але дрэва мкне ў вышыню,
людзі ўвыш глядзяць з-пад павек...
Прагне ўсё жывое агню —
і прырода, і чалавек.
Што ж, пад сонцам усе згарым.
Попел наш забярэ зямля
і душу ў нябёсы, як дым,
лёгка выдыхне апасля...

*1 верасня (ноч) 2010 г., в. Вароніна*



* * *

Там, дзе скошана трава,
зноў узыдзе мурава...
А дзе складзена жыццё —
забуцвее забыццё
пэўных дзей, людзей, падзей,
як пад сонцам ні мадзей.

Не адразу, паступова
згаснуць згадкі, справы, словы —
і высокі калісь муж
забываецца наўкруж.

Двух ці трох — народа твар —
занясуць у каляндар.
А ўсе простыя магілы
праз якую сотню год
пойдуць зноў у абарот
для нашчадкаў нашых мілых...

Але сутнасць нашых лёсаў
ані ў смерці, ні ў жыцці —
а ў магчымасці дзівосна
ў новы стан свой перайсці.
Нават наш бясплотны дух,
здзьмуўшы свечку адыходу,
ўжо сілкуе вечны рух
Богам створанай Прыроды.

І таму ты не самоцься,
а спакорана маўчы,
і канца жыцця не бойся,

бо яго няма ні ў чым.
Помні, раз ты нарадзіўся,
ты ніколі не памрэш,
бо з мінулага з'явіўся
і ў наступнасць адплывеш...

*28 снежня 2008 г.*



# СА МНОЮ

* * *

*«Люблю»*, — шапнула мне яна
усім сваім дзявочым палам...
І больш ніколі ні адна
мне гэтых слоў не прашаптала.

Без іх мае зямныя дні —
бясконцая нямая скруха...
*«Люблю»*, — і ты ў адказ шапні —
у вечнасці глухое вуха...

Няхай у прорве пустаты
свайго шукае адрасата,
і калі знойдзе, ўявіш ты,
якой была любові страта...

*1 чэрвеня 2010 г.*

* * *

У *ку*це бязлюднага бара,
дзе круцяць «Пінк-Флойд» і «Кіно»,
сядзела мінорная пара,
замовіўшы сыр і віно.

Жанчына ў пярсцёнках са срэбра.
Мужчына — самотны эстэт.
Драўляная грубая мэбля
злагоджвала іх інтэлект.

Яна запальнічкай красала.
Ён пальцамі песціў фужэр,
і воблачка дыму хавала
яго захмялелы намер.

І так да паўночы сядзелі
ў суладдзі, без лішніх размоў,
і штосьці ад гэтага мелі,
і неслі, як шчасце, дамоў...

*6 снежня 2009 г.*

## Табе — замест ружаў

Гандлююць толькі
мёртвымі кветкамі.
Нават самая прыгожая,
патрапіўшы ў нашыя рукі,
бляднее і неўзабаве канае,
склаўшы пялёсткі жыцця...

Кветкі смяротныя,
апроч кароткага часу квітнення.

Несмяротныя толькі іх душы —
няўвідны салодкі пылок,
за якім прылятае чмель
і вецер паднебны...

*24 чэрвеня 2011 г.*

* * *

Ты для сваёй часовай жарсці
мой свет жыцця жадала б скрасці...
Вазьмі ж дарма яго, ды помні,
што ім ты ўласны свет запоўніш...

*Сярэдзіна ліпеня 2011 г., в. Вароніна*



# Імя

Прачнуўся ноччу й на паперы
я запісаў тваё імя,
і не даю наранку веры,
што анідзе цябе няма.

Ні ў памяці, ні ў сэрца схованах...
Ёсць толькі музыка, ёсць гук
няўлоўнага дарэшты слова,
аддалены дaслоўны гул...

Імя ў душы маёй начуе,
якая ў снах з пары тае
яго з-за свету дзесьці чуе,
а выкрыць свету не дае...

Цябе няма на гэтым свеце,
а там, дзе ёсць, ты й там — адна,
як Магдалена ў Назарэце,
што аднаму Хрысту відна...

Яна імя сваё адкрыла,
і Ён ад покліку свайго
ёй даць хацеў — упаўшай — крылы,
калі прасіла... рук Яго...

Не адкрывай сябе
нyздатным
тваё імя кляймом насіць,

лепш паміраць ад вечнай страты,
чым страчанай навечна быць.

*21 лістапада 2011 г.*



* * *

Прадчуваю: з сусветных высяў,
працінаючы неба сінь,
Сам Гасподзь мне насустрач выйшаў,
каб паўстаць Адзін на адзін.

Я з сустрэчы той не вярнуся
ані мёртвым, ані жывым,
а ўсёй сутнасцю застануся
ў вышняй Вечнасці разам з Ім.

Не шукай майго духу месца,
бо не знойдзеш яго нідзе,
толькі ў спратах таемных сэрца,
пад тугім пагоркам грудзей...

Вось адтуль ты мяне і клі*к*ай,
і не зводзь бяссонных вачэй
над святой евангельскай Кнігай
сорак дзён і сорак начэй...

Як адчуеш усёй істотай,
што пачну я ў табе расці —
значыць, з пятніцы на суботу
я ўваскрэсну ў тваім жыцці...

*11 студзеня 2008 г.*

* * *

Хрысціна косіць — не падняць чала,
пакуль пракос пад ногі ніц не ляжа,
ляціць за ёю зумкая пчала
і воскам ногі ўтомленыя мажа...

Ёй плоць яе спакою не дае,
і гэты грэх, як рэха маладосці,
цнатлівасці Хрысціне дадае,
бяссонніцу змагаючы да млосці...

Яна й цяпер на хутары сваім
расой травы на золку мые ногі,
і двор яе вартуе херувім —
бабыль вясковы, светлы і убогі...

І ты, паэт, як жарсць ні варушы,
а ссохнеш трутнем бліз мядовых сотаў,
не вымаліўшы ў грэшнае душы
тых намыслаў, што роіліся ўпотай.

*22 лістапада 2008 г.*



## Сучасная Афрадыта

Яна чадзіла едкай «прымай»,
і чым няспешней, тым хутчэй
расстайным попелам і дымам
з маіх сыходзіла вачэй...

А быў жа час — нічый, няпэўны, —
калі, ступіўшы на сувой
з марской вады і белай пены,
яна паўстала прада мной...

*10–14 верасня 2009 г., в. Вароніна*

## Дом пры могілках

Да могілак глухой сцяной
стаіць хаціна Маніна,
там ноччу спіць яна спіной
да ўсёй радзіны мамінай.

Яе суседзі тут даўно
для ўсіх жывых — нябожчыкі,
а Маня ім штодня ў акно
пастукае-пабожкае...

То міскай бразне, то вядром,
то пілкай, то матыкаю...
І па ваду ідзе з Пятром,
а з граблямі — з Мікітаю,

капае з Янам агарод,
з Іллём жыты прарошчвае,
смяецца з Паўлам цераз плот,
з Платонам плача роспачна...

Між іх — ад ранку да цямна —
шукае свайго мілага,
хоць не спяшаецца сама
да іх жытла магільнага,

дзе муж не можа ўсё заснуць,
пільнуючы хвіліну,
каб дом нарэшце свой замкнуць,
забіць, як дамавіну.

*25 жніўня 2009 г., в. Вароніна*



## Каханне і любоў

*В.*

Калі кахаў, то прагнуў я любві,
калі любіў, то мроіў пра каханне.
Што ж, жарсць — заўжды заложніца крыві,
адданасць жа — душы выпрабаванне.

Народжаная ты, найперш, — кахаць,
а я — любіць...
Наўслед маланцы й грому,
мы здольныя былі перадаваць
каханне і любоў адзін другому,

якія ўраз спляталіся ў адно,
звіваючы адзінства пупавіну,
і ткалі лёсу нашага радно,
што ляжа палатном на дамавіну.

*20 жніўня 2011 г.*

* * *

*«Люблю»* ні разу не сказала,
не ўспыхнула ад пачуцця...
Халодным каменем ляжала
ў падмурку нашага жыцця.

І стыласць губ тваіх цнатлівых,
нібы світальную расу,
я піў, як вязень сіратлівы
з-за крат саснёную красу...

А ты трывала і трымала
і дому крэн і лёсу схіл,
па-над усім мяне ўздымала,
пакуль тваіх хапала сіл...

Відаць, адно — калі наверсе
пачую кліч анёльскіх труб,
сама ў адчаі ты кранешся
маіх амаль халодных губ...

І з той пары мы будзем зліты
да неразлучнасці, да тла...
І нашы каменныя пліты
зазелянеюць ад цяпла...

*29 траўня 2008 г.*



# У МАІХ

## Брукаванка

Едучы брукаванкай
да роднай вёскі,
заўсёды думаю:
колькі ж трэба было
затраціць людской сілы,
каб сабраць столькі камянёў
для такой шэрхлай, грубай
і грукатлівай дарогі?!

Камень пры камені,
плоць пры плоці —
адзін суцэльны шлях
да неасяжнай мэты,
і кожны камень
в*і*дны,
выр*а*зны,
выбітн*ы*
адметамі
сваіх трэшчын
і шчарбінамі лёсу...

На дарозе жыцця
кожны з нас

пакідае пасля сябе
свой камень —
сваю *долю* адзінай
зямной брукаванкі...

*19 чэрвеня 2011 г.*



## Вёска-2008

Сяло паміраe,
а я ўсё жыву —
ў сабе прымяраю
і высь, і траву...

Ні кісла, ні горка,
ні смеху, ні слёз...
Магільная горка
дастала нябёс...

Тут бабкі — *ababкі*
пры хатнім камлі,
а *дзедкі* іх — кветкі
ім цягнуць з зямлі...

Каза ды сабака,
БТ, МТС...
Крумкач ім накаркаў
падобны прагрэс.

Ён кружыць над хатай,
зарослым дваром,
счарнелы, глюгаты,
з распнутым крылом...

А мы з той культуры,
дзе *«шмон»* ды *«гамон»*,
*«казлы»* па натуры,
ў душы — *«гегемон»*...

Ім дорым *«мабілы»*,
прывозім *«шмацьцё»*,
каб так да магілы
іх скрасіць жыццё...

Імя выклікаем,
а *«доступа нет»* —
і сувязь знікае,
і рушыцца свет...

*6 жніўня 2008 г., в. Вароніна*



## На ранішні выгул сабакі

*Маленькай мілай Тэры*
*прысвячаю*

На золкім ранку роснай павутой,
бы марляю, ад жнівеньскіх апёкаў
забінтаваны вераснёўскі дол,
што да вясковых прытуліўся вокан.

Як мячык, сцежкай коціцца тэр'ер,
збіваючы з былінак ізумруды,
пакуль з кустоўя не выходзіць звер
рагаты ў форме круглае спаруды.

З яго нутра малочны пах цячэ,
а з губ рухомых вісне жоўты лубін,
і з плеерам пастух, дзіця яшчэ,
вылазіць следам з групай «Нейра Дзюбель»...

Гамоніць з ветрам на трасянцы лес,
прарэджаны на трэць жывое сілы:
дуб вывезлі ў Нямеччыну, — не ўвесь,
астатні тут на трэскі раструсілі.

Аточвае самотны песімізм,
і ціхай сапай забірае скруха:
паўвека будаваў сацыялізм,
а ў быце і ў душы адна разруха...

Тэр'ер жа мой кароткі мае век,
аднак жыве сваім канкрэтным часам

на ўвесь сабачы дух,
 а чалавек
бярэ ўраздроб — і ўсё губляе разам.

Давай мы, Тэры, вернемся назад —
на маміны блінцы, на пах капусты,
да трох каналаў, што вяшчаюць лад,
і аднаго з праявамі распусты...

Прыставім лескі, павуту і пыл
мышынага гарышча адсланіўшы,
і зжоўклыя старонкі кніжных крыл
разгорнем на бабуліным узвышшы.

Збанкі, гаршкі, верацяно, чаўнок...
і мышалоўка, і ладдзя калыскі —
па сутнасці, і вусце, і выток,
што тут сышліся, вымкнуўшы калісьці.

Вось выгул наш кароткі па жыцці,
тэр'ер,
 тым больш, на повадзе кароткім, —
і гэты шлях мы змушаны прайсці
да вызначанай лёсам павароткі...

*31 жніўня 2010 г., в. Вароніна*



* * *

Вышэе бяздонная просінь,
пусцее празрыстая даль...
Глухая глыбокая восень
стаіць, нібы ў студні вада...

У ціхай старэючай вёсцы
пры вуліцы — можна сарваць —
на яблыні, быццам на ёлцы,
румяна «цыганкі» гараць.

А ў лесе ні свісту, ні звону,
ад кроны да кораня ўніз
злятае агніста-чырвоны,
а падае — выстылы ліст...

Цікаўныя, быццам паненкі,
на схіле настылага дня
ў акруглых берэтах апенькі
выцягваюць шыі з-за пня.

Сцяжына няўхільна вузее,
як спрадзенай ніткі кужэль.
А сонца цяжэе й цяжэе,
пакуль не ўпадзе за каршэнь

высокаму гулкаму бору
і ў прысаку барвы замрэ,
і золак зраселаму Богу
ледзь відныя рысы сатрэ.

*4 кастрычніка 2010 г., в. Вароніна*

## Танцы ў выхадныя

Шэры заяц таньчыў
на шырокай лясной дарозе,
па якой у буднія дні
сноўдаюць з ровам
магутныя МАЗы,
што возяць пясок
з трох кар'ераў,
раскапаных у гэтым,
некалі нерушным,
лесе...
Заяц танцаваў
у лясной цішыні,
пакуль не згледзеў мяне...
Была нядзеля,
і я сапсаваў яму свята.

Заўтра зноў у яго
пачнуцца
*кар'ерныя* будні...

*9 траўня 2010 г.*



## Перад Пакровамі

Расстайныя восені дні
халоднымі зеўраць вачыма
туды,
дзе з нябёс глыбіні
расце завядання прычына.

Плыве меланхоль павуты
кужэльнаю звілінай тонкай
у свет памірання пусты
на жар арабінавай гронкі...

На ўсім замірэння пячаць,
хоць вецер за гумнамі стогне...
І Бог пачынае згушчаць
асенняга свету сутонне...

Ён выганам будзе хадзіць,
туман пакідаючы лёгкі,
бы ладанам храмным кадзіць
наводдаль нябожчыцы-вёскі,

пакуль не рыкн*е* ад хлява,
не гаўкне ад будкі сабачай,
не грукне дзвярыма ўдава
і роспачна ўголас заплача...

*22 лістапада 2008 г.*

* * *

*Дзядзьку Мішу*

На могілках вясковых
сярод імперскіх *«яцъ»*
па-беларуску словы
на помніку гарацъ.

Там спіць мая бабуля
сярод зямной красы.
Пры мне яе пабудзяць
анёлаў галасы.

Ці меркне, ці світае,
пагодзіцца ці гром —
яна мяне вітае
рамонкавым святлом

і моваю спрадвечнай
напамінае мне,
што шлях наш не канечны
і Бога не міне.

*28 чэрвеня 2009 г., Мінск*



## Хутар Рай

На гэтым хутары, бліз Мінска,
дзе замест ганка — тры глыжы,
жывуць гаротніца Ларыска,
сабака Рэм і два мужы.

Адзін, бязмоўны і сухотны,
бух*а*е кашлем, бы ў сцяну
абухам б’е,
            другі — маркотны,
адданы дыму і віну...

Ад ранку ў кожнага занятак.
З абеду кожнаму — спакой...
Рэм гэты ўвечнены парадак
вартуе з лютасцю сляпой.

І муж і сын — згрызот аскепкі,
якіх не склеіць і не сшыць,
але Ларыска росціць кветкі
і прадае, каб неяк жыць...

Як толькі зорка ў шыбу стукне
і абарвецца, бы апад, —
усё ў ваколіцы заглухне,
і Бог узыдзе на пасад —

яны душу сваю знаходзяць,
і нішкам моляцца Яму,
і ў іншы свет на ноч сыходзяць,
нібыта ў горад на зіму...

І толькі Рэм адзін знадворку
сярод зацятай цішыні
скуголіць ціхенька на фортку,
як быццам просіць: адчыні...

Але яму, як лёсу драму,
даверыў службу Бог адну —
і ён у двор вартуе браму,
бы ў Рай... і з Раю — пасля сну...

Бо як прачнуцца ранкам трое,
то ўсё наноў сваё пачнуць:
і ружу зрэжуць для настрою,
і Рэму костку зашпурнуць...

Ды ён не выпусціць іх з Раю,
няхай хоць Пеклам стане Рай,
пакуль іх душы з таго краю
не адляцяць за небакрай...

*15 траўня 2008 г.*



## Адведкі бацькоўскай хаты

Цэлы год пражыла бацькоўская хата
сіратою ў спусцелай вёсцы.
Адна масніца ў святліцы
яшчэ мамінай хадою гаворыць,
а другая — скрыпіць чужым голасам...
Стаю пасярод хаты,
аточаны таямнічай адчужанасцю.
Распнуты Хрыстос на покуці
упарта чапляецца
за павучыну
жыцця...

*3 чэрвеня 2011 г.*

## Настальгічнае

За тое, што даўно жыву ў сталіцы,
наўрад ці хто з вяскоўцаў папракне,
ім роўна, што Ванэса Мэй на скрыпцы
ў канцэртнай зале грае для мяне...

За тое, што хаджу па тратуары,
у цёплай хаце маю туалет,
і той, хто не чытае «Кулуары»,
не плюне і не вылаецца ўслед.

Бо ў кожнага — легальна й нелегальна —
у горадзе нашчадкаў чарада,
з машынай-аўта і машынай пральнай,
з хвалёвай печчу... хоць без чарана...

А тут пілой двухручнаю Сямёнчык
адзін пілуе дровы на двары,
і на суках зубцы пілы скрыгочуць
і тупяцца ў засмоленай кары.

Гайдаецца, хістаючы планету, —
сюды-туды — і колькі сіл стае,
ён цягне на сябе ўсю скруху свету,
а ад сябе — душу ўсю аддае...

Я думаю, пакуль яшчэ трапеча
ягоны пульс, удзячны ён жыццю,
хай нават сын віно ў кавярні хлебча
пад ролік з мардабоем Косці Цзю.

*7 верасня 2010 г., Мінск*



* * *

Напрыканцы ліпеня
прыехаў у родную вёску.
Адзін — роздумна і самотна —
вячэраю ў пустой хаце:
*маладой* бульбы
прынесла
*старая* суседка.

*11 жніўня 2011 г.*

## Касінерам і касцам часу

Кашу як умею, не надта каб так,
як бацька, з сялянскім размахам:
займаю вужэй, ходзіць хістка пята —
кладзецца ўсё прахам!

Выводжу пракос свой з папраўкай на час.
Мянчу языком без належнае клепкі
часцей, чым бруском, і зважаю штораз —
бадылле стаіць, а падкошаны кветкі...

Навука і вопыт бацькоўскі сышлі
і роснай травой на кладах падняліся...
І добра, што косы мы ўсё ж зберaглі,
з якімі на вернасць Айчыне кляліся!

Магчыма, як ступіцца гострая сталь
і кожны касец пад травою маўчацьме,
праляжа ў пракосах былых магістраль,
злучыўшы жывое і мёртвае ў часе.

*21 жніўня 2010 г., в. Вароніна*



# МАЁ

* * *

Пакуль пчала
над кветкаю
мадзее,
надзея
ў чалавецтва
маладзее
і поўніцца
нектарам
дзён
зямных...

*28 чэрвеня 2011 г.*

* * *

Дзеці сачкамі для матылькоў
ловяць у мелкім канале малькоў...
Невадам зорным ловіць Гасподзь
зямнога тварэння заценены спод...

*28 чэрвеня 2010 г.*



* * *

Штодня тэлефаную ў вёску
сваёй састарэлай маме:
штораз адно і тое ж пытаюся,
і кожны раз адказ яе
гучыць непаўторна...

*6 лістапада 2009 г.*

* * *

Мяце ў двары.
Гняце ў душы.
Лютуе ў сэрцы.
На скронях — снег...

*13 снежня 2009 г.*



* * *

Зімнасць лёсу,
у рэшце рэшт,
астуджвае ўсе нашы
палкія жарсці.

Пад пудкім цяпельцам
с
в
е
ч
к
і
грэюцца рукі нябожчыка...

*17 лістапада 2009 г.*

## Чалавек

Вялікая сіла
ў небе яго стварыла.
А на зямлі ён — РАсліна,
Божая сліна.

*1 лютага 2011 г.*



* * *

*Алесю Разанаву*

Твае ЗНОМы —
сэнсу зломы,
сховы ад рыфмы —
паэзіі
гострае брытвы.

*6 сакавіка 2011 г.*

* * *

Хваля за хваляй,
дзень за днём,
год за годам...

Лыжка за лыжкай,
як дыетычную страву, —
без жадання —
з'ядаю сваё жыццё...

*5 снежня 2009 г.*



* * *

Сабака злізваў, як марозіва,
прынесены на пысе першы снег...

*7 снежня 2009 г.*

* * *

Зло наўзбоч паўзло,
а дабро трывала...
Так жыццё й прайшло,
покуль смерць драмала...

*20 верасня 2010 г., в. Вароніна*



* * *

Паэт —
у **камені** —
не вечны,
у небе Шлях
ягоны Млечны...

*24 лютага 2010 г.*

* * *

Агонь — і агмень, і геена.
Вада — і крыніца, і вір.
І сам чалавек — параменна —
то гліна жывая, то жвір...

*15 чэрвеня 2010 г.*



* * *

адны і тыя ж пачуцці
адны і тыя ж жаданні
сонца адно і тое ж
цемра ночы адна
паўтарайся і ты —
каб не выпасці
з
вечнасці

*6 чэрвеня 2010 г.*

* * *

Стоена-таропка
ў сне
разглядваю малюнкі
*разгубленай* памяці...

*16 траўня 2010 г.*



## Мацярынская мова
## *(графічны верш)*

ніхто не пазбавіць
мяне дыхання
пакуль не ўсмерціць
так і мова будзе патоліць
прагу маю да жыцця
да апошняга ўздыху

і ўсё ж аднойчы
закрыўшы мне вочы
яна засыпле мяне
словамі развітання

**і**
*на магіле*
*ўваскрэсне*
**ў**
*камені*

## Амаль

Бывала,
што ў лесе
я адчуваў сябе амаль дрэвам,
у вадзе — амаль рыбай,
у полі — амаль коласам,
амаль птушкаю — на вяршыні,
а блізу мудрых людзей —
амаль чалавекам.
І нават,
помню,
нешта амаль боскае
адчуў у сабе аднойчы,
калі ўзняўся над сабой
і адолеў сваё маладушша,
але да самога Слова так і не дайшоў —
не памысліў нават
і
не сказаў,
што ёсць *усім*...

*17 снежня 2011 г.*



* * *

Паэт,
пасля прэзентацыі,
прадаваў свае кніжкі,
машынальна дапаўняючы іх
статычнымі аўтографамі...
Натхнення хапіла
на продаж пяці асобнікаў.
Болей не змог
прапаноўваць іншым
тое,
ад чаго
збавіўся
сам...

*20 снежня 2011 г.*

* * *

Што скажаш ты,
калі цябе маўчаць прымусяць?..

*16 чэрвеня 2011 г.*



# МАЕ

* * *

Люблю, адбіўшыся ад будняга жыцця,
блукаць у одуме ажно да забыцця;
праглядваць карашкі сабраных кніг,
прыпамінаючы прачытанае ў іх;
перабіраць сюжэты і герояў —
жывое ўсё, але, як свет, старое,
і аўтараў — і ў профіль, і ў анфас —
з мінулага вяртаць у гэты час...

*25 лютага 2011 г.*

## Мазыр-1982

Пляц ЛПП мялі ўвесь час
апойкі гнобныя, як зэкі...
Стральцоў ім спачуваў штораз
з-за шэрых штор бібліятэкі.

«Воениздата» каленкор
ужо ў вачах яго траіўся:
там і парторг і пракурор
за кожнай вокладкай таіўся...

Людзей другога тыпажа
сустрэць таксама выпадала,
калі няўзнак са стэлажа
пластом вывальваўся Купала...

А больш за ўсё дзівіў Хаям,
што з азіятчыны прынаднай,
цвярозасці мазырскі храм
абвіў лазою вінаграднай.

Здаралася і, на авось,
замест закладкі ў томе Цвейга
знайсці зачытанай наскрозь
наклейку з клецкага «Партвейна».

Тут не трымала ні на міг
яго нішто на *свеце ясным*,
апроч закратаваных кніг
ды іхніх чытачоў няшчасных.

Таму, пакінуўшы Мазыр,
а разам з ім віно і крозы,



павесіў ён свой літмундзір
на сук чыжоўскае бярозы.

І там у прахалодны цень
і сам ён лёг — і пекла сініца...
*«Цень-цень, сініца, добры дзень!»*
Дазволь расы зямной напіцца...

*18–23 траўня 2010 г.*

* * *

Мама, такога народзіць не кожная,
мама,
не перажывай!
*Анатоль Сыс*

Даўно ні мамы, ні Сыс*а*
няма, а ў памяці свіціцца
іх лёсам поўная сляза,
гатовая вось-вось скаціцца...

*«Лявон, калі ты ўрэшце верш
займееш добры?»* — ён пытаўся.
І нада мной стаяў — УВЕСЬ, —
нібыта бог і вершадаўца.

Зайшоў прад смерцю. Папрасіў
наліць віна — і выпіў залпам,
і цыгарэтай закусіў,
і тройчы вылаяўся запар.

Стыў у ягоных зрэнках жах,
бо кожны раз праз церні цноты
уласны ён адольваў страх
сваёй трагічнай адзіноты.

Яго цягнула да сясцёр...
*«На лета выеду ў Гарошкаў.
Ужо й архіў сабраў — жыццё,
бо нежыці, як мятых грошай...
Алена, Міра, Лара — ах!
Андрэй, Алесь, Мікола: будзьма!..»*



І выпіў зноў, і гіблы страх
ужо не мог хаваць прылюдна.

З пакоя «Полымя» ў пакой
свой уваліўся ён, бы ў пекла,
і кроў пайшла з яго ракой,
і ў дол Айчыны з сэрца бегла...

Цяпер яна цячэ ў Дняпры,
а дух ягоны — над вадою...
І зор над грудам — *«трыццаць тры»*,
і ён пад імі — сіратою...

*23 жніўня 2010 г., в. Вароніна*

# Развітальнае

Там, у тым далёкім сельсавеце,
ляжыць зямля сырая на паэце.
*Мікола Купрэеў*

Па палыновым паху каньяку
я дух яго ўлаўлю на ўсякім свеце...
Ці чуе плач па сыну-Маруку
ягоны бацька ў Нацкім сельсавеце?

Апушчаны ў прамерзлую зямлю
прад сонечныя вочы роднай маці,
на ўсіх жанчын апошняе *«люблю»* —
як для адной — ён холадна маўчацьме.

Жыццё — гульня: удар — і зноў адскок,
бы шарык тэнісны ў крутым палёце,
баяўся ўпасці ён на гэты бок
і ўпаў на той — і Бог з табой, Валодзя...

На мове нашай павітайся Там
з Апосталам на браме запаветнай.
Скажы, што ўсім ты сёстрам і братам
прынёс паклон ад грэшных з *апраметнай*.

Калі не спатрабуюць пераклад
і ў свой Эдэм прапусцяць памылкова,
ты палюбі, як бацькаў, Райскі сад,
каб там квітнела матчыная мова.

*10 лютага 2010 г.*



* * *

Я Куляшова палюбіў
не менш, чым вечнага Купалу.
Хоць камуністам ён і быў,
а на прарока меў запалу...

Спярша, як шахматны кароль,
са званнем, але безуладны,
з ЦК заігрываў і роль
іграў паэта тэм маштабных.

Але штораз усё вышэй
яго зацягвала ў нябёсы,
і чым сасна была страшней,
тым дух яснеў яго бярозы.

Ён пазнавата зразумеў,
што, як паэт, — Хрыстовы вучань —
і юдаў-ворагаў займеў,
але й прыхільнікаў трывучых...

Радкі яго апошніх кніг
з крыніцаў першых выцякалі,
наіў і нерушнасць якіх
нажытым вопытам вянчалі.

І лёс ён свой не сачыняў,
сканаўшы ў замку Радзівіла,
дзе Музе дзверы адчыняў,
якая мысліла й дзівіла...

Няхай радкоў такіх няшмат,
але яны таго каштуюць,

каб адысці ў паднебны спрат,
дзе грэшнікі яго пачуюць...

Не вернецца... Ну што ж, бывай...
Ды вернуцца, як рэха, гукі
прарочых слоў у родны край,
дзе *зведаў* ён любоў і *мукі*...

*22 лютага 2009 г.*



* * *

*Светлай памяці Барыса Іванавіча*

Рускі чалавек Барыс Бур’ян
слухаў мае вершы беларускія,
штоператвараліся ў бур’ян
і ў макулатуру па-за вуснамі...

Гэта ён з эфірнай балбатні
кожны гук жывы лавіў найпершым.
*«Лёня,* — мне званіў, — *давай крутні*
*на «Культуру», слухай свае вершы...»*

Госпадзе, навошта мне наноў
ад нашэсця іх трываць пакуту?!
Ды дзеля яго я ўсё ж гатоў
выпіць хмель і праглынуць цыкуту...

Ведаючы нашу і сваю
мовы, ён ніколі іх не блытаў.
*«Ці чытаў Іванава? Хвалю...»*
*«А стихи народного пиита?»*

Ён за роўных нас з сабой трымаў,
а вышэй за ўсё цаніў мастацтва
творча жыць, а не як той трамвай,
рэек дзвюх усё жыццё трымацца...

Тое, што чытаў, — перадаваў
іншым, хто не зрокся запаветаў.
Толькі збор «Пророков...» мне прадаў
за капейкі, каб цану ім ведаў.

І калі ад цішыні аглух,
адзінока зглытваючы фразы,
спешна гаварыў адзін за двух
на абедзвюх мовах ён адразу:

*«Будзе цяжка, але не цяжэй,*
*чым было... Легко лишь после смерти...*
*Ни о чем в сей жизни не жалей...*
*А смуткуй, калі галосяць дзеці...»*

І калі развітваліся з ім
у высокім гулкім крэматорыі,
я стаяў перад труной, як мім,
на пакуль нейтральнай тэрыторыі...

Скрушна гледзячы ў халодны твар,
што растане ў полымі бяскроўна,
я маліўся, хоць і не святар,
за яго — на мовах дзвюх — бязмоўна.

*5 ліпеня 2010 г., Мінск*



* * *

*Святлане Купрэевай*

Мы на «фордзе» са Светай ляцім,
па шляхах валацужных паэта,
і з трымценнем пажадным глядзім,
як збягае пад колы планета...

За сто сорак спідометар — в-в-в-у-у-х!!! —
і жыццё спрасавана ў хвіліну...
Пралятаем і поле, і луг,
дзе любіў ён казюрку й травіну...

Русла Шчары, як шабля, мільгне,
лес *зялёны* — дарогаю насцеж:
вецер шыльды сцірае ў акне
яго крамаў, пасёлкаў і станцый...

Ён з-пад лоба пад ногі глядзеў,
адчуваючы плоццю пакутнай
продкаў дух, што ў глыбінях гудзеў,
і ўзвышаў яго хваляй магутнай.

...махам веек сваіх небасхіл
да Еўропы дачка развінае.
Там, дзе бацька пасеяў грахі,
ўсе калдобы яна абмінае...

Дзвюх гадзін ёй хапіла ўсяго,
каб дапяць да прыстанку *паэты*
і заспець, як заўжды, ад яго
ледзь развеяны дым цыгарэтны...

«Форд» жалезны з асфальту дарог
мы да сельскіх кладоў падрулілі,
і каленьмі паўсталі ля ног,
што Палессе, як хату, схадзілі...

Свечка ўсё не хацела гарэць,
хоць была і намолена ў Храме —
ні ў царкву, ні ў касцёл, ні ў мячэць
ён не верыў... а верыў ён Маме,

што забіта была маладой,
двойчы ў чорнай зямлі пахавана...
*«Божа мой, Божа мой, Божа мой...»* —
шэпча першая жонка Таццяна.

Коля Рымач хрысціўся і слёз
не хаваў, ну, а я, як католік,
надмагілле аглядваў наскрозь
да зямных і каменных расколін...

Шлях наш рэдка калі супадаў,
што ж, ён быў адзінцом па прыродзе —
дзе б ні жыў, з кім ні піў, дзе б ні спаў —
адусюль неўзабаве сыходзіў...

Два дубы пры магіле стаяць,
як ні глянь, — маўзалейная варта.
А ці доўга яму там ляжаць? —
разважаць несур’ёзна й нявартa...

*29 чэрвеня 2008 г.*



## Знічка

Хто згасае на захадзе краю
і вітанні апошнія шле?
Лагвіновіч Іван памірае...
А паэзія ўсё-ткі жыве...

*25 сакавіка 2011 г.*

* * *

На Беларусі Бог жыве!
*Уладзімір Караткевіч*

Бог не жыве на Беларусі,
але Ён любіць Беларусь.
Наш дух Яму ў нябёсах гусі,
як дар зямны, перадаюць.

І сцелецца іх белы пух,
бы Млечны Шлях у вечным часе,
пакуль у Небе не патух
німб Вышняга ў зары атласе...

Убогіх, нас Ён пазнае
па ўпалым запалошным духу,
і ў нашы душы надзьмуе
Сусветную любоў і скруху.

Ён бачыць наш адчай і жах
і, гледзячы ад райскай брамы,
нам скарачае рабскі шлях
ад лона да магільнай ямы...

Яго паўсюднасць страшыць нас,
таму, здымаючы пакровы
з грахоў сваіх у Судны час,
мы просім мацярынскай мовы,

каб расказаць Яму сябе,
якімі ёсць з Яго жадання
на гэтай праведнай сяўбе —
ад росквіту да завядання...



О, як знайсці Яму тут кут,
каб Ён сышоў з нябёс абруса
і увасобіўся ў радку
таго празорцы-беларуса,

які пісаў, што *«Бог жыве!»*,
і ўдакладняў: *«На Беларусі»*...
Там, дзе *«за Гомлем людзі е»*
і *«пчолы большыя, чым гусі»*...

*16 студзеня 2008 г.*

* * *

Усё канчаецца зямлёю,
хоць пачынаецца з нябёс,
дзе не табою і не мною
людскі рахуецца наш лёс...

І аніякае надзеі,
апроч таго,
што нехта Звыш
нас,
быццам будні да нядзелі,
збярэ
і вынесе свой крыж.

*19 верасня 2011 г.*



# МАЯ

*У вянок памяці маме*

## Званок

Прачнуўшыся
пасля цяжкага сну,
па даўняй звычцы
набраў нумар
мамінага мабільніка...
*«Апарат абанента выключаны
альбо знаходзіцца
па-за зонай дзеяння сеткі...»* —
адказваюць мне.
І праўда,
мама ўжо тыдзень
як на тым свеце...

*15 лістапада 2010 г., Мінск*

## Маміна хата

На саракавіны па маме
сястра прывезла
адмысловай атруты
для мышэй
(яна працуе
ў санэпідэмстанцыі)
і рассыпала тыя
гарошыны смерці
па кутах пустой хаты...

А мне ўспамінаюцца
маміны словы,
якая тут векавала
пры лесе:
*«Ляжу, сынок, ноччу і слухаю,*
*як мыш у кутку шкрабецца, —*
*хоць адна жывая душа...»*

*13 снежня 2010 г.*



## Пасля саракавін

Ноччу ў сне —
голасна і настойліва —
паклікала
да сябе мама...
Прачнуўся,
збянтэжаны,
і пытаюся:
*«Божа, няўжо*
*родная маці*
*можа клікаць*
*на той свет*
*свайго сына?!»*
А мне адказваюць:
*«Яна патрапіла ў рай,*
*хоча, каб і ты быў шчаслівы...»*

*24 снежня 2010 г.*

* * *

Са сваімі правінамі, балячкамі, бедамі
раней да Бога чамусьці не йшоў —
далёка,
бліжэй да мамы...
Цяпер штораз да Яго іду,
каб быць да мамы бліжэй...

*6 верасня 2011 г.*



* * *

Пакуль жыла мама,
у сям'і была адзіная —
родная для ўсіх —
мова.
А цяпер —
у кожнага свая...

Цесным гуртам
мама ўсаджвала нас за стол,
і ўсім месца хапала,
а калі, бывала,
зашумім, заспрачаемся,
то яна скажа ціха —
і ўсе разумелі,
дзе — соль, а дзе — цукар...

Цяпер,
хоць і рэдка,
а сабраўшыся без яе,
скрыўдзімся і скрычымся да хрыпаты,
не маючы мовы адзінай,
блытаючы гарэлку з вадой...

*20 студзеня 2011 г.*

* * *

У паштовай скрынцы павута,
электронная набіта спамам.
Ад адчаю атачае пустата,
свет змяніўся пасля смерці мамы...

*1 снежня 2011 г.*



* * *

Сёння год як памерла мама.
У вёсцы лясной
зямля на магіле прасела,
грудок з долам зраўняўся.
Можна й *прыкласці*,
як кажуць у нас,
гэта значыць,
паставіць помнік.

Вясною выйдзеш на свет
першай травою,
мама...

А памяць сына
глыбейшая за магілу.
Там схавана тваё жыццё...

*26 кастрычніка 2011 г.*

## Эпітафія

Усё жыццё стаяла мама
над зямлёй.
Цяпер зямля стаіць
над мамаю маёй.

*30 кастрычніка 2010 г., Мінск*



## Змест

**Галубовіч, Л.**
Г15 З гэтага свету : вершы пасля вершаў / Леанід Галубовіч ; прадм. Ц. Чарнякевіча. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 108 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 23).
ISBN 978-985-7007-51-6.

Гэтая кніжка — плён дванаццацігадовага публічнага маўчання паэта. Столькі часу ён не выступаў з вершамі ў друку, а дзесяць гадоў і ўвогуле іх не пісаў. Усе змешчаныя тут тэксты ёсць пазнакамі водгукаў яго душы на зрухі і праявы нядаўняга часу. Своеасаблівы метафарычны аналіз аўтарам свайго ўнутранага жыцця. Вершы публікуюцца ўпершыню.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64 (4 Беи)-5**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 23

**Галубовіч** Леанід Міхайлавіч

**З ГЭТАГА СВЕТУ**

*Вершы пасля вершаў*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 1.03.2012. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 5,0.
Ул.-выд. арк. 2,53. Наклад 300 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.